№ 24 (72)
Сьнежань 2000

# Права на волю

Бюлетэнь Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна"



Падчас прэс-канферэнцыі. Фота "ПнВ"

## Улады ўсяляк тармозяць ход сьледзтва...

***20 сьнежня ў Мінску Грамадзкае аб'яднаньне "Праваабарончы цэнтр "Вясна" правяло прэс-канферэнцыю з удзелам родных і блізкіх асобаў, якія зьніклі бясьсьледна.***

Першым у Беларусі прапаў бяз вестак былы міністр унутраных справаў Беларусі Юры Захаранка. Здарылася гэта 8 красавіка 1999 году. З таго часу сьледзтва, узбуджанае па крымінальнай справе аб зьнікненьні вядомага дзеяча апазіцыі, топчацца на месцы. Няма зрухаў і ў іншых "гучных" расьсьледваньнях, што вядуцца па фактах зьнікненьня В.Ганчара, А.Красоўскага, Дз.Завадзкага... "Дзяржаўныя службы толькі робяць выгляд, што шукаюць вядомых у Беларусі людзей, якія прапалі бяз вестак, — падкрэсьліў на прэс-канферэнцыі прадстаўнік ГА ПЦ "Вясна" Б.Гюнтэр, — складваецца ўражаньне, што ўлады проста хочуць "пахаваць" гэтыя справы. А гэта надзвычай небясьпечна, бо калі ня высьветліць ісьціну і не пакараць вінаватых, дык падобныя злачынствы будуць працягвацца..."

На прэс-канферэнцыі выступілі Зінаіда Ганчар і Ірына Красоўская. "У зьнікненьні Віктара быў зацікаўлены толькі адзін чалавек, — сказала З.Ганчар, — і толькі гэты чалавек можа аддаваць загады любым сілавікам. Сьледчы мусяць працаваць у першую чаргу над гэтай версіяй, але такой магчымасьці ў іх проста няма..." З.Ганчар выказала занепакоенасьць тым, што апошнім часам заўважае за сабой "сьлежку". Яна мяркуе, што гэтым ёй даюць зразумець, каб яна "не варушыла" справу аб зьнікненьні мужа і дамагаюцца ад яе, каб яна зьехала з краіны, як зрабілі гэта Вольга Захаранка і асабісты кіроўца В.Ганчара Лычоў, які знаходзіцца цяпер у Галандыі.


Зінаіда ГАНЧАР. Фота "ПнВ"


Ірына КРАСОЎСКАЯ. Фота "ПнВ"

## Хроніка

*5 сьнежня* інвалід першай групы Валеры Кішчук выказваў маўклівы пратэст, седзячы ў інвалідной калясцы каля будынку Мінгарвыканкаму. Ён выступаў супраць парушэньня і ігнараваньня ягоных чалавечых правоў. Валеры Кішчук вымушаны пакутаваць, жывучы ў нечалавечых бытавых умовах пры адсутнасьці належных сацыяльных гарантыяў. Па загадзе чыноўнікаў Мінгарвыканкаму на В. Кішчука напалі два супрацоўнікі міліцыі, апранутыя ў цывільнае. В. Кішчук спытаў у невядомых у цывільным , хто яны і што ім трэба? У адказ пачуў брудную лаянку і пагрозу пабіць яго "по гражданке" (менавіта так яму сказалі), бо гэта будзе выглядаць як бытавы учынак. Невядомыя зрабілі спробу выкінуць Валерыя Кішчука з інвалідной каляскі. В. Кішчук лічыць гэты выпадак зьдзекам уладаў над ім як асобай і грамадзянінам. Заяву наконт таго, што адбылося, Валеры Кішчук падаў у ГА ПЦ "Вясна".

*У ноч з 12 на 13 сьнежня* быў абрабаваны офіс Наваполацкага Грамадзкага аб'яднаньня культурна-асьветніцкіх ініцыятываў "Усяслаў Чарадзей». Супрацоўнікі, якія зранку прыйшлі ў офіс, пабачылі адчыненыя ўваходныя дзьверы, пасярод аднаго з пакояў стаялі накрыўкі ад карпусоў кампутараў. З пяці капутараў, якія знаходзіліся ў офісы, пацярпелі тры: з двух сістэмных блокаў было выцягнутае амаль усё начыньне, яшчэ адзін застаўся без аператыўнага запамінальнага прыстасаваньня. Пацярпелая арганізацыя зьвярнулася з заявай у міліцыю. Па факце рабунку пачалося сьледзтва.

(Працяг на стар. 6)

# "Мы людзі, а ня быдла!"

## Пад такім лозунгам выйшлі на мітынг пратэсту 18 сьнежня беларускія прадпрымальнікі

Беларускія прыватныя прадпрымальнікі на сёньня, пэўна, найбольш настойлівыя ў адстойваньні сваіх правоў. Лукашэнка даўно ня лічыць "вашывых блох" (ягонае "знакамітае" выказваньне) сваім "электаратам" і таму абыходзіцца з прадпрымальнікамі дужа жорстка. Да таго ж дзяржаўную казну цяпер можна папоўніць толькі з дапамогай падаткаў з людзей , якія маюць "свой бізьнес", вось і "закручваюцца гайкі".




18 сьнежня Беларускі саюз прадпрымальнікаў, Стачкам прадпрымальнікаў, свабодныя і незалежныя прафсаюзы правялі ў Мінску мітынг у абарону правоў прадпрымальнікаў. Мітынг адбыўся на плошчы Бангалор. Прадпрымальнікі выступілі супраць пастановы Дзяржаўнага мытнага камітэту РБ, якая тычыцца мытнага афармленьня тавараў з Расійскай Фэдэрацыі, увезеных з трэціх краінаў. Яны запатрабавалі скасаваць неабгрунтавана вялікія адміністратыўныя штрафы, спыніць прыцягненьне да адміністраіыйнай і крымінальнай адказнасьці індывідуальных прадпрымальнікаў па фармальных ці надуманых прычынах, адмяніць абавязковы бугалтарскі ўлік з фіксаванай стаўкай падатку, паменшыць кошт арэнды гандлёвых месцаў. Да таго ж, прадпрымальнікі патрабавалі адстаўкі міністра юстыцыі РБ Генадзя Варанцова, ведамствам якога ўжо паўгода не рэгіструецца Беларускі прафсаюз прадпрымальнікаў. Мітынг атрымаўся нешматлюдным, але прадпрымальнікі засьведчылі рашучасьць гэтым разам змагацца за свае правы да канца.

Ад кропкавых акцыяў пратэсту, якія праходзяць па гарадах Беларусі, прадпрымальнікі зьбіраюцца перайсьці да агульнанацыянальных. Калі ўлады не прыслухаюцца да іх патрабаваньняў, з 1 па 5 студзеня адбудзецца папераджальны страйк: на працу ня выйдуць гандляры на ўсіх рынках краіны.




# Нестандартны прысуд

***4 – 8 сьнежня ў судзе Чыгуначнага раёну г. Гомеля быў вынесены ўнікальны прысуд. Жанчына была прызнаная вінаватай у зьдзяйсьненьні адміністратыўнага правапарушэньня, аштрафаваная і адначасова да яе была прымененая амністыя, вызваленьне ад штрафу і зьняцьце судзімасьці...***

24 лістапада 1998 году супраць Т. Л. Церашковай — тады галоўнага бухгалтара заводу спартовага мадэлізму і навучальных дапаможнікаў г.Гомеля — была ўзбуджаная крымінальная справа па арт. 91 ч.1 КК РБ – крадзёж маёмасьці шляхам злоўжываньня службовым становішчам – і выбраная мера стрыманьня ў выглядзе арышту. Ня лічачы сябе вінаватай і пратэстуючы супраць пазбаўленьня волі, Т.Л.Церашкова абвясьціла галадоўку і трымала яе 37 сутак. У гэты час яе разьмяшчалі ў карцэр, прымянялі прымусовае кармленьне. Першы разгляд гэтай справы ў судзе Чыгуначнага раёну г.Гомеля скончыўся абвінаваўчым прысудам, але па касацыйнай скарзе вышэйстаячая судовая інстанцыя прысуд адмяніла і накіравала справу на новае судовае разьбіральніцтва ў той жа суд у іншым складзе судзьдзяў. Другі судовы разгляд скончыўся апраўдальным прысудам у частцы крымінальнага перасьледу і перакваліфікаваньнем у адміністратыўнае правапарушэньне, але і з гэтым рашэньнем Т.Л.Церашкова не пагадзілася і абскардзіла яго. На судовым паседжаньні на гэты раз у якасьці назіральнікаў прысутнічалі гомельскія прадстаўнікі БХК і ГА ПЦ "Вясна" (Б.І.Звоскаў у якасьці грамадзкага абаронцы ад "Вясны"), а таксама прадстаўнік КНГ АБСЕ ў Беларусі Н. Дударава. У судовым паседжаньні Т.Л.Церашкова паведаміла, што ніякіх крадзяжоў яна не зьдзяйсьняла. Яна распавяла, што на пачатку 1998 году сапраўды зьвярталася да папярэдняга дырэктара заводу з просьбай дапамагчы вырабіць дзьве балконныя рамы па расцэнках, якія прадугледжаныя для супрацоўнікаў заводу. Рамы былі зробленыя за 4 месяцы, але за гэты час зьмяніўся дырэктар заводу, які даў распараджэньне накіраваць рабочых дзеля ўсталяваньня рамаў. Пазьней адносіны Т.Л.Церашковай з новым дырэктарам сапсаваліся, і калі жанчына хацела ўнесьці грошы ў касу, ёй адмовілі і не прынялі іх, а адначасова дырэктар напісаў заяву ў АБЭЗ, па якой і была ўзбуджаная крымінальная справа.

Пяць дзён ішоў разгляд гэтай справы, у выніку якога і быў абвешчаны такі нестандартны прысуд.

# Юлія Чыгір: "Рэпрэсіўная машына, запушчаная ў далёкіх 30-х гадах, працуе і па сёньня"

***Гутарка карэспандэнта "Права на волю" з Юліяй Чыгір — жонкай былога прэм'ер-міністра РБ, палітвязьня Міхаіла Чыгіра***

***— Юлія Станіславаўна, апошні год XX стагодзьдзя быў для вашай сям'і багатым на падзеі, у тым ліку і ня дужа прыемныя: суды — над вамі і мужам, няўдалыя спробы балатавацца ў дэпутаты парламенту, пастаянны маральны ціск з боку ўлады?..***

— Так, сапраўды, гэты год быў для мяне і мужа няпростым. З іншага боку, я не назвала б яго цяжкім. Проста – складаным, проста – годам, калі спатрэбілася шмат энергіі для ўдзелу ў грамадзкім, палітычным жыцьці.Я ня думаю, што гэты год можна назваць цяжкім, таму што ўсё, што адбывалася, рабілася ў адказ на дзеяньні, зробленыя намі раней. Рэпрэсіі супраць нашай сям'і былі адказам на нашыя дзеяньні пасьля 1996 году і асабліва 1999-га, на крытычныя выказваньні па эканамічнай палітыцы, што праводзіцца ўладамі Беларусі, на пераход на дыктатарскую форму праўленьня, нашыя з мужам заявы пра ўдзел у палітычнай барацьбе і пераходзе ў апазіцыю да кіраўніцтва краіны. Калі мы крочылі на гэты шлях, разумелі, што сутыкнемся з цяжкасьцямі і непрыемнасьцямі. Падкрэсьлю: мы сьвядома ішлі і на выбары, і на канфлікт з кіраўніцтвам краіны, разумеючы, што ад гэтай улады іншай рэакцыі чакаць немагчыма.

***— Нядаўна Вярхоўны суд Беларусі адмяніў прысуд па справе Міхаіла Мікалаевіча. Як вы мяркуеце, гэта было зроблена з-за пратэсту пракуратуры ці ўсё-ткі больш паўплывала скарга адвакатаў? Чаго тут больш: прызнаньня прысуду несправядлівым альбо – "мяккім"?***

— Пачну з прамога адказу на гэтае пытаньне, а затым патлумачу свае словы: вышэйшая судовая інстанцыя прызнала прысуд незаконным, несправядлівым, але выказала гэта ў схаванай форме. Так, судом вынесенае вызначэньне, з якога вынікае, што ў суда не было падставаў ня толькі на тое, каб вынесьці больш жорсткі прысуд, але і дзеля таго, каб асудзіць Міхаіла Мікалаевіча на той тэрмін, які быў вызначаны прысудам. Менавіта таму матэрыялы справы вернутны не суду першай інстанцыі дзеля зьмяншэньня прысуду, а сьледчым структурам дзеля збору больш важкіх доказаў віны. Суд абавязаў пракуратуру больш дасканала прааналізаваць дзеючае заканадаўства і пасьля гэтага паўторна вызначыцца, ці парушаў яго Чыгір, ці зьяўляюцца ягоныя дзеяньні крымінальнымі і больш яскрава паказаць, дзе бачыць пракуратура сувязь паміж дзеяньнямі Чыгіра і шкоднымі наступствамі па справе. Пытаньне ставіцца так, бо дакументы, прадстаўленыя суду, сьведчаць пра іншае.

У калегіі Вярхоўнага суда РБ справу разглядалі тры судзьдзі-прафесіяналы. Яны павінны былі пацьвердзіць відавочна(!) незаконны прысуд. У Крымінальным кодэксе прадугледжаная адказнасьць судзьдзяў за такія дзеяньні. Думаю, што менавіта таму прысуд Чыгіру ня быў зацьверджаны калегіяй. Судзьдзі не захацелі ўдзельнічаць у злачынстве. А залежнасьць судзьдзяў ад уладаў выявілася ў тым, што вынесены не апраўдальны прысуд, а справа накіраваная на дасьледваньне.

Цяпер гэтае дасьледваньне ня мае сэнсу. Колькі б сьледчых да справы ні падключалі, бяссэнсоўна шукаць доказы віны па гэтых эпізодах. Віны проста няма.

***— Міхаіл Мікалаевіч ужо заявіў, што будзе балатавацца ў прэзідэнты. Але як доўга можа працягнуцца дасьледваньне ягонае справы?***

— Я лічу, што ўладам ня ўдасца перадаць сьледзтву матэрыялы па нейкім эпізодзе, нейкія крымінальныя справы ў суд, каб вынесьці Чыгіру абвінаваўчы прысуд. Таму што гэткіх матэрыялаў ва ўладаў проста няма!

***— Вам таксама вынесьлі прысуд па крымінальнай справе – 2 гады з адтэрміноўкай на год. Вы і вашыя адвакаты падалі касацыйную скаргу?***

— Я падала папярэднюю касацыйную скаргу, яна пішацца перад азнаямленьнем з пратаколам судовага паседжаньня. Я заявіла ў сваёй касацыйнай скарзе, што ня згодная з прысудам, бо ён зьяўляецца незаконным. А ўжо потым, пасьля азнаямленьня з пратаколам, пішацца больш дэтальная скарга — са спасылкай на нарматыўныя акты, на законы, на пратакол судовага паседжаньня. Дык вось, абгрунтаваную скаргу я яшчэ не падала. З пратаколам я нядаўна азнаёмілася. Я напісала заўвагу на пратакол. Гэта заўвага, якая складаецца амаль з сарака лістоў. Пратакол бязьлітасна падганяецца пад абвінавачваньне, і я ў сваіх заўвагах прыводжу паказаньні, якія на самой справе гучалі на судзе. Я так зразумела, гэта практыка нашых судоў: для таго, каб прыдаць законнасьць прысуду, яны падтасоўваюць паказаньні. І, у прынцыпе, калі ведаеш добра нашае заканадаўства, калі ўлоўліваеш скажэньні, калі не лянуешся пісаць шмат пісьмаў, папераў, калі ўся незаконнасьць прысуду ляжыць на паверхні, то спрачацца нават у нашай дзяржаве можна і трэба. Я думаю, што даб'юся і адмены свайго



Юлія ЧЫГІР

прысуду (калі не ў гарадзкім судзе, дык вышэй), падаючы касацыйную скаргу, а далей скаргі па назіральных інстанцыях. Я на гэта спадзяюся. Бо прысуд таксама відавочна незаконны. Вядома, калі чытаць той пратакол судовага паседжаньня, як яго напісалі ў судзе, дык сапраўды, калі б гэта не пра мяне было напісана, я сама сказала б: так, гэтая жанчына сапраўды вінаватая!

***— А чые паказаньні фальсіфікаваліся – вашыя, сьведкаў?..***

— Абсалютна ўсіх, хто толькі даваў паказаньні – і сьведкаў, і мае, і Амельчанкі ("пацярпелы" міліцыянт – *Т.С.*). Здаецца, такая дробязь, маленькая дэталь зьмененая, але ўсё атрымліваецца абсалютна перакручаным з ног на галаву.

***— А вы не размаўлялі па-за паседжаньнямі з самім Амельчанкам? Што ён вам казаў у такіх размовах?***

— Ведаеце, я размаўляю з людзьмі, калі думаю, што чалавек зрабіў памылку альбо патрапіў у складаную сітуацыю — яго, можа, прымусілі напісаць гэтую заяву... Але я проста зразумела з папярэдніх сустрэчаў, з ягонага выступу на судзе, што гэта чысьцейшай вады падонак, брудная асоба. Нават калі я ведаю, што мне пагражае турэмнае зьняволеньне – з такімі людзьмі я не размаўляю. Я лічу гэта ніжэйшым за сваю годнасьць.

***— У тым жа Гарадзкім судзе выносілі прысуды многім палітыкам.***

*(Працяг на стар. 4-5)*

# "Рэпрэсіўная машына, запушчаная ў далёкіх 30-х гадах, працуе і па сёньня"

(Пачатак на стар. 3)

***Але доўгі час не было прэцэдэнту, каб пасьля апазіцыйнага палітыка асудзілі яшчэ і ягоную жонку. Чаму, як вы думаеце, ўсё ж была патрэбна такая справа супраць вас?***

— Рэч у тым, што, як я ведаю, мяне вельмі "любяць" у міліцэйскіх шэрагах – на абласным, рэспубліканскім узроўнях. За два гады, пакуль вялася справа мужа, мяне вельмі "палюбіла" і пракуратура. Зразумела, гэтае стаўленьне — у двукосьсі, бо я ім давала вельмі шмат клопатаў. Калі ведаеш, дзе трэба засьведчыць парушэньне тваіх правоў, як гэта зрабіць, каб усе гэтыя зьвесткі засталіся ў справе, то ёсьць магчымасьць потым аспрэчваць незаконнае рашэньне. Я ведала, як гэта зрабіць, і займалася гэтым, і вельмі шмат давала клопатаў як пракурорскім работнікам, так і міліцэйскім. З аднаго боку. А з другога, я мела неасьцярожнасьць нахабна ім у вочы сьмяяцца з іх, з іх невысокага прафесійнага ўзроўню і рабскай пакоры уладам. Я ім паказвала, наколькі яны непісьменныя, і гэта іх раздражняла заўсёды. Нават памятаю, калі спадар Глухоўскі даваў інтэрв'ю журналістам на нейкай прэс-канферэнцыі (ён быў уражаны "мяккім" прысудам супраць Чыгіра), прагучалі такія словы: "Гэта людзі, якія плявалі ў сьліну сьледчым". Так ён казаў пра мяне. Адзін раз я з Глухоўскім сустрэлася ў краме, падышла да яго, сьмела казала яму ў вочы, што думаю: ён зеляней ад злосьці і ў той сітуацыі ня мог нічога са мной зрабіць. І таму яны мне адпомсьцілі за ўсё.

***— Ці адчувала вашая сям'я маральную падтрымку ўвесь гэты час?***

— Хачу падкрэсьліць тое, што неаднойчы журналістам казала і хацела б яшчэ раз паўтарыць: я і мая сям'я адчувалі ў гэты час падтрымку вялікай колькасьці людзей. З намі засталіся амаль усе нашыя сябры. Мы вельмі ганарымся тым, што правільна выбіралі сваіх сяброў па жыцьці, і яны нам ня здрадзілі ў цяжкі час. Часам мне кажуць: калі чалавек ва ўладзе, дык яго падтрымліваюць многія, калі ён сыходзіць з "вярхоў" — яго пакідаюць людзі, якія былі побач, сябравалі. Я хачу сказаць, што гэта ня так. Проста тыя, хто ва ўладзе, мабыць, выбіраюць сабе ў атачэньне людзей, якія патрэбныя, могуць дапамагчы — іншымі словамі, выбіраюць "сяброў" па нейкіх карысьлівых матывах. У нас, у нашым жыцьці такога не адбылося. Мы ганарымся тым, што з намі побач вельмі шмат людзей, сяброў, мы адчуваем іх падтрымку — і маральную, і часам матэрыяльную, бо даволі доўгі час нашая сям'я не працавала, а былі патрэбныя вялікія грошы, каб аплочваць адвакатаў. Нават сёньня нашае жыцьцё патрабуе пэўных расходаў, зьвязаных з палітычнай барацьбой. Нам дапамагаюць нашыя сябры і нашыя паплечнікі. Іх вельмі шмат.

***— Юлія Станіславаўна, калі ваш муж быў за кратамі, мы з вамі гутарылі пра спробы ўлады аказаць ціск на вашую сям'ю праз дзяцей. Ці паўтараліся такія спробы ў 2000-м годзе? Як ўвогуле вашыя сыны пражылі гэты год?***

— Вядома, нашыя дзеці таксама



**М.Чыгір, Ю.Чыгір і адвакат Г.Паганяйла (справа-налева) ў зале суда.**

адчуваюць на сабе ціск уладаў. Крышачку менш чапляцца сталі да малодшага сына. Праверка ягонае дзейнасьці, усяго ягонага атачэньня, ягоных заняткаў ніякіх пэўных вынікаў не дала. Ён ажаніўся, у яго маленькае дзіця, па гэтай прычыне яго нельга прызваць у войска. Яго нельга прыцягнуць да нейкай адказнасьці, бо ён не займаецца бізнесам. Больш ціск адчуваў старэйшы сын. У гэтым годзе споўнілася тры гады ягонаму дзіцяці, і, пачынаючы з красавіка, задоўга да сканчэньня адтэрміноўкі прызыву ў войска (яго толькі з наступнага году могуць прызываць, бо было маленькае дзіця), сына пачалі выклікаць у ваенкамат. Нават сёньня з раніцы патэлефанаваў міліцыянт і сказаў, што ў міліцыі ёсьць папера на вышук старэйшага сына за тое, што ён хаваецца ад службы ў войску, і ёсьць загад яго прывесьці прымусова. Паўтаруся: ён мае законнае права ў гэтым годзе яшчэ не прызывацца. Ціск на старэйшага сына адчуваўся і раней. Правяралі фірмы, дзе ён працаваў, яго выклікалі ў падатковыя інсьпекцыі, там зьяўляліся нейкія патрабаваньні неабгрунтаванага характару. У пачатку жніўня гэтага году ён зьехаў у Нямеччыну і там папрасіў палітычнага прытулку. Сын знаходзіцца цяпер за межамі Беларусі і вяртацца адтуль не зьбіраецца. Калі ўжо ён быў там, мы атрымалі таксама цікавую паперу, у якой пісалася аб тым, што ён быццам бы пазьбягае выплаты нейкай сумы грошай. Каму і чаму – там не было напісана. Я ведаю, што ніякіх прэтэнзіяў ніхто да яго не прад'яўляў. У паперы было таксама напісана, што ў пэўны час да нас дадому завітаюць міліцыянты і прадстаўнікі пракуратуры, каб апісаць маёмасьць сына дзеля таго, каб спагнаць нейкую суму грошай (колькі — ня ўказвалася). Потым, калі я паспрабавала даведацца, што гэта за грошы, каму і што сын застаўся вінен, аказалася, быццам бы яго затрымлівала ДАІ. Ён перавысіў хуткасьць і быў аштрафаваны на 3,5 тысячы рублёў. Гаворка ішла пра гэты штраф. А нас палохалі, што будзе апісаная маёмасьць. Гэта было ўзьдзеяньне хутчэй псіхалагічнага характару. Сёньня ж мне паведамілі, што ёсьць загад прымусова прызваць яго ў войска...

Хачу сказаць, што ўладам, мабыць, вельмі цяжка прыцягнуць да адказнасьці чальцоў маёй сям'і. Простыя міліцыянты, замест таго каб выконваць гэтыя загады, паведамляюць нам аб тым, якія загады ёсьць, і калі лепш не трапляцца на вочы міліцыі. Таму нават позвы да сьледчага ўручаліся мне афіцэрамі і шараговымі міліцыянтамі, якія прыязджалі дадому.

Яшчэ раней, як юрыст, я сутыкалася вельмі часта з тым, што ў нашай краіне выносіліся незаконныя прысуды людзям, што пайшлі на нейкі канфлікт з уладамі. Яшчэ тады я некаторым з іх дапамагала бараніць сябе, рыхтаваць зыскавыя заявы ў суд... І ведаю, што гэтая рэпрэсіўная машына працуе з далёкіх 30-х гадоў. Я вельмі шмат ведаю людзей, яшчэ з даперабудоўчых гадоў, якім па загадзе ўладаў былі выдадзеныя даведкі, што яны зьяўляюцца псіхічна хворымі. Ну, а паколькі тая машына працуе і па сёньня — гэта страшна... І ў будучыні неабходна будзе правесьці кардынальныя судовыя рэформы.

***— Магчыма, трэба было б пераглядзець і крымінальныя справы па пэўных артыкулах — напрыклад, эканамічных...***

— Я думаю, што павінна быць створаная нейкая група з юрыстаў, у якую б маглі падаваць скаргі людзі, што былі асуджаныя і пяць, і дзесяць гадоў таму, каб прааналізаваць усе гэтыя справы. Пабыўшы колькі разоў у судзе, я пазнаёмілася там з адною жанчынай, якая ніколі не прэтэндавала на вядомае імя, удзел у палітыцы — яна проста сутыкнулася з міліцыянтамі. Яна патрапіла ў канфліктную сітуацыю і захацела даказаць, што міліцыянт, прымяніўшы да яе сілу, зрабіў гэта незаконна і павінен несьці адказнасьць. Яна чатыры гады даказвае ў судах сваю невінаватасьць. І за гэтыя гады ёй адпомсьцілі тым, што ў турму пасадзілі ейнага сына, і зараз яе падводзяць пад тое, каб зрабіць псіхічна хворай. Яна і на самой справе ўжо ня стрымлівае свае эмоцыі, у яе няўроз відавочны. Але гэта не псіхічна хворая жанчына, яе давялі да такога стану. Яна адна — адна! — змагаецца з дзяржаўнаю машынаю!..

***— Чаму вы сёлета вырашылі балатавацца ў дэпутаты лукашэнкаўскага парламенту?***

— На выбары я ішла ня дзеля таго, каб стаць дэпутатам. Я ня верыла ў магчымасьць і мэтазгоднасьць гэтага. Я хацела паказаць на сваім прыкладзе, як адбываюцца выбары ў нашай краіне. Я лічыла, што няўдзел у выбарах дазволіць Лукашэнку казаць: "Я пайшоў бы ім насустрач, але ж яны самі не захацелі". І нам бы не было чым пярэчыць. Я ведала, што апазіцыю не дапусьцяць да ўдзелу ў выбарах, ведала, што будуць парушэньні, але я хацела, каб увесь сьвет гэта бачыў на нашым прыкладзе. Я пайшла на выбары, каб быць грамаадводам, на які павінны былі сыпацца ўсе парушэньні. Я мяркую, што сваю ролю выканала.

***— Калі б ваш муж стаў прэзідэнтам Беларусі, чым бы вы хацелі тады займацца? І якія зьмены, на вашую думку, павінны адбыцца ў эканоміцы Беларусі?***

— Я пра эканоміку не хачу казаць, бо не прэтэндую на ролю прэзідэнта, як і на ролю ягонага блізкага дарадчыка. Калі ж гаварыць пра праграму майго мужа, дык хачу нагадаць пра тое, што ўжо забылі. Некалькі дзён таму я ўзяла "Асноўныя напрамкі эканамічнага разьвіцьця Беларусі", прынятыя ў 96-м годзе — за месяц да таго, як Чыгір падаў у адстаўку. Гэта эканамічная праграма, якую ён прымаў. Вельмі цікавая праграма, і я думаю, што яе можна публікаваць як праграму кандыдата ў прэзідэнты. Там вельмі ясна напісана і пра разьвіцьцё прыватнага сектару, і пра зямлю, і пра інвестыцыі, і пра напрамкі супрацоўніцтва, і пра беларускасьць, і пра суверэнітэт. Справа ў тым, што пасьля сыходу Чыгіра ў адстаўку ніхто тае праграмы не прытрымліваўся і ніхто яе не праводзіў у жыцьцё. Мне было вельмі цікава чытаць тую праграму, бо ўсё, што сёньня ў Беларусі адбываецца, робіцца ў адваротным напрамку. І думаю, што грамадзкасьці было б таксама цікава з ёй пазнаёміцца. Тым больш, што гэта былі б ня нейкія "пражэкты", не папулісцкая праграма кандыдата ў Прэзідэнты — гэта была тая праграма, якая прымалася прэм'ер-міністрам Чыгіром, і якую ён хацеў правесьці ў жыцьцё. Менавіта яе не захацеў праводзіць сёньняшні прэзідэнт.

Сваю ролю я бачу толькі ў тым, каб выконваць, калі сапраўды будзе трэба, тыя абавязкі, якія павінна выконваць жонка прэзідэнта. Гэта ўдзел у грамадзкіх арганізацыях, зьвязаных з дабрачыннасьцю, правамі грамадзянаў. Я буду актыўна ўдзельнічаць у грамадзкім жыцьці дзяржавы. Я лічу, што валодаю пэўнымі арганізацыйнымі здольнасьцямі, і ўсё жыцьцё мару арганізаваць сваё прадпрыемства ці, можа, арганізацыю, зьвязаную з абслугоўваньнем насельніцтва. Магчымы і юрыдычны напрамак дзейнасьці. Ёсьць задумкі і наконт іншага. Да прыкладу, я вельмі люблю кветкі – можа, гэта было б прадпрыемства, зьвязанае з вырошчваньнем кветак. Мне хочацца мець сваю справу...

А ўвогуле для мяне было б больш прыймальным, каб прэзідэнтам стаў чалавек дэмакратычнага напрамку, пры якім можна было б сваю ініцыятыву, свае мары ажыцьцявіць. Калі гэтага не адбудзецца, мне давядзецца марыць, пакуль сітуацыя ня зьменіцца. Я ўсё ж веру, што мая мара збудзецца. Я веру, што некалі буду мець сваё імя ў сферы абслугоўваньня.

***— Што ж, няхай вашыя мары збудуцца!***

**Гутарыла Тацяна СЬНІТКО.**

# Перш за ўсё – Канстытуцыя...

## Меркаваньне адваката

***Адвакат Сяргей Цурко супрацоўнічае з ГА ПЦ "Вясна" на працягу некалькіх апошніх гадоў. Сёлета яму давялося прымаць удзел у шматлікіх судовых працэсах супраць арганізатараў і ўдзельнікаў байкатаваньня апазіцыяй выбараў у лукашэнкаўскі парламент. Як юрыста яго цікавіла законнасьць дзеяньняў уладаў адносна палітычна актыўных грамадзянаў, якія прымалі ўдзел у вулічных шэсьцях, пікетаваньні, якія адбываліся ў Мінску і іншах гарадах краіны, і заканадаўства, якое ляжыць у аснове карнай дзейнасьці дзяржавы. Вынікам ягоных назіраньняў і роздумаў стаў артыкул, які ён прапануе чытачам "ПнВ".***
***Аўтар падкрэсьлівае, што гэты артыкул – ягонае асабістае меркаваньне, дакладней пазіцыя, і што яна не зьяўляецца ісьцінай у апошняй інстанцыі...***

Прававой асновай правядзеньня працэсаў супраць палітычна актыўных грамадзянаў зьяўляюцца Канстытуцыя РБ, Закон РБ "Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсьцях, дэманстрацыях і пікетаваньні" ад 30 сьнежня 1997 году з наступнымі зьменамі, а таксама Дэкрэт Прэзідэнта РБ ад 9 верасьня 1999 году №36 "Аб некаторых мерах па прадухіленьні надзвычайных здарэньняў пры правядзеньні масавых мерапрыемстваў" і акты мясцовых органаў улады.

Пры абароне грамадзянаў у судах г. Мінску давялося сутыкнуцца з няправільным прымяненьнем нормаў матэрыяльнага права адміністратыўнымі судзьдзямі.

У якасьці сваёй пазіцыі я прапаную аналіз толькі арт. 167-1 КаАП РБ "Парушэньне парадку арганізацыі і правядзеньня сходаў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў, дэманстрацыяў і пікетаваньня", артыкула Кодэксу аб адміністратыўных правапарушэньнях, які часьцей за ўсё разглядаецца ў судах. Як правіла, пасьля правядзеньня масавых і іншых мерапрыемстваў прадстаўнікамі апазіцыі супрацоўнікі міліцыі заўсёды праводзяць масавыя затрыманьні ўдзельнікаў такіх акцыяў, афармляюць на затрыманых матэрыялы за ўдзел у несанкцыянаваных: вулічных шэсьцях, пікетаваньні і г.д. Гэтыя матэрыялы разам з затрыманымі затым дастаўляюцца ў суды. Як паказвае судовая практыка, за рэдкім выключэньнем адміністратыўныя судзьдзі спыняюць вытворчасьць па справах па вызначаным вышэй артыкуле, а ў асноўным, што тычыцца ўдзелу ў несанкцыянаваным пікетаваньні (як звычайна ўказваецца ў міліцэйскіх пратаколах: "грамадзянін … прымаў удзел у несанкцыянаваным пікетаваньні…"), то грамадзяне, якія апынуліся перад судом, падвяргаюцца адміністратыўным пакараньням. Для прыняцьця рашэньня аб вінаватасьці таго ці іншага грамадзяніна ў парушэньні парадку арганізацыі ці правядзеньня мерапрыемства возьмем толькі пікетаваньне. Як указана ў дыспазіцыі артыкула, вельмі часта дастаткова толькі рапартоў супрацоўнікаў міліцыі, якія сьведчаць пра знаходжаньне таго, хто прыцягваецца да адказнасьці, у месцы правядзеньня адпаведных акцыяў, прычым сьведкі, супрацоўнікі міліцыі, якія склалі рапарт, звычайна ў судовых пасяджэньнях сьведчаць, што прыцягваемы да адказнасьці грамадзянін стаяў моўчкі, заклікаў, пратэстаў не выказваў, што зьяўляецца адной са складаючых вінаватасьці асобы ў несанкцыянаваным пікетаваньні. Іншы раз нехта з грамадзянаў мог трымаць плакат з нейкай інфармацыяй. І гэтага, падкрэсьліваю, у большасьці выпадкаў дастаткова для прыцягненьня такой асобы да адміністратыўнай адказнасьці па арт. 167-1 ч.1 ці 2 у залежнасьці ад прыкметаў правапарушэньня.

Я не абмяркоўваю ў дадзены момант неабходнасьць наяўнасьці ці наадварот выключэньня з Кодэксу арт. 167-1 КаАП РБ.

Пытаньне ў іншым. Правільна, ці інакш – законна, выносяць судовыя рашэньні судзьдзі по адміністратыўных справах па дадзеным артыкуле, ці могуць яны па арт. 167-1 ч.1 прыцягваць да адказнасьці шараговых удзельнікаў вызначаных мерапрыемстваў, і ўвогуле, абапіраючыся на дыспазіцыю часткі 1, – хто можа быць прыцягнуты да адказнасьці?

Адказваць на гэтыя і іншыя пытаньні паспрабую з некалькіх пазіцыяў.

Пачнем з дыспазіцыі артыкула. Парушэньне вызначанага парадку арганізацыі ці правядзеньня сходаў, … і пікетаваньня. Парадак арганізацыі і правядзеньня вызначаны ў аднайменным законе. У Законе "Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсьцях, дэманстрацыях і пікетаваньні" у артыкуле 2 дадзеныя азначэньні асноўных паняцьцяў, якія сустракаюцца ў законе. На жаль, там няма азначэньня арганізатара і ўдзельніка названых мерапрыемстваў. Хто можа быць арганізатарам і парадак арганізацыі вызначае частка 2. Заканамернае пытаньне, ці неабходна юрыдычна вызначыць паняцьце ўдзельніка? Мяркую, што так. Бо ні ў арт. 167-1 КаАП РБ, ні ў законе такога паняцьця няма. Артыкул 11 Закону вызначае парадак правядзеньня сходаў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў, дэманстрацыяў і пікетаваньня і абавязкі арганізатараў гэтых мерапрыемстваў. Артыкул 12 Закону вызначае парадак падтрыманьня грамадзкага парадку пры правядзеньні мерапрыемстваў. У ім тлумачацца ў вычарпальнай форме дзеяньні, якія нельга зьдзяйсьняць арганізатарам і тут зьяўляюцца ўжо ўдзельнікі. Няма сэнсу пералічваць забароны для ўдзельнікаў, бо проста ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве не зьяўляецца для іх забаронай выходзячы з закону. Далей, артыкул 13 Закону рэглементуе спыненьне сходаў, … і пікетаваньня. У дадзеным выпадку лічу патрэбным прывесьці тэкст артыкула 13 у поўным аб'ёме:

(Працяг на стар.7)

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар.1)

***15 сьнежня*** ў Магілёве на стыхійны мітынг выйшлі рабочыя буйнейшага ў горадзе прадпрыемства — вытворчага аб'яднаньня "Хімвалакно". Каля 500 чалавек перакрылі рух на прасьпекце Пушкіна з патрабаваньнем неадкладна выплаціць затрыманы заробак. Запазычанасьць рабочым была выплачаная адразу ж.

***18 сьнежня*** судзьдзя Вышэйшага гаспадарчага суда РБ Валеры Шобік прыняў рашэньне адмовіць інстытуту "Адкрытае грамадзтва" ў зыску да падатковай інсьпекцыі Ленінскага раёну г. Мінску аб вызваленьні з-пад арышту маёмасьці, што арандавалася ў інстытута прыватнай друкарняй "Мэджык". Суд прызнаў дамову ад 5 верасьня 1997 году, па якой друкарскае абсталяваньне Беларускага фонду Сораса было перададзенае на ўласнасьць інстытуту "Адкрытае грамадзтва", — "юрыдычна мізэрнай". Гэткае рашэньне Вышэйшага гаспадарчага суда азначае, што абсталяваньне, на якім у "Мэджыку" сёньня друкуецца практычна ўся беларуская незалежная прэса, будзе канфіскаванае і прададзенае, як уласнасьць Беларускага фонду Сораса, у кошт "даўгоў" фонду. Інстытут "Адкрытае грамадзтва" плануе зьвярнуцца да намесьніка старшыні ВГС з просьбай аб вынясеньні пратэсту па гэтым рашэньні. Зрэшты, незалежныя назіральнікі сьцьвярджаюць, што рашэньне ВГС было прадвызначаным яшчэ да пачатку судовага разьбіральніцтва: напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў улады імкнуцца стварыць перашкоды на шляху свабоднага слова.

***20 сьнежня*** старшыня Федэрацыі прафсаюзаў беларускай Уладзімір Ганчарык паведаміў, што ў канцы сакавіка 2001 году камітэт па свабодзе асацыяцыяў Міжнароднай арганізацыі працы (МАП) разгледзіць скаргу беларускіх прафсаюзаў ФПБ і БКДП наконт парушэньня прафсаюзных правоў беларускімі ўладамі. Разгляд гэтага пытаньня падтрымалі 32 дэлегацыі з 43, што бралі ўдзел у 6-й Еўрапейскай нарадзе МАП, якая адбылася 11-17 сьнежня ў Жэневе. Удзельнікі нарады запатрабавалі ад беларускіх уладаў выкананьня Канвенцыяў МАП, ратыфікаваных ўрадам, аб свабодзе асацыяцыяў, аб неўмяшальніцтве ўраду ва ўнутраныя справы прафсаюзаў, аб праве на страйкі. Калі беларускія ўлады ня зьменяць палітыку адносна прафсаюзаў, дык МАП зробіць "сур'ёзныя крокі" адносна ўраду нашай краіны. Гэта азначае, падкрэсьліў У.Ганчарык, "пэўную ізаляцыю і эканамічныя санкцыі". ФПБ, між тым, рыхтуецца да акцыі пратэсту, якая павінна прайсьці ў сярэдзіне лютага пад лозунгам: "Заробкі — на ўзровень цэнаў!"




***12 сьнежня*** *ў Празе адбылася сустрэча прэзідэнта Чэхіі Вацлава Гавела з беларускімі праваабаронцамі і палітыкамі. З беларускага боку ў сустрэчы з былым дысідэнтам, а цяпер галоўнай уладнай асобай краіны, прынялі ўдзел В.Вячорка, А.Лябедзька, А.Міхалевіч, С. Шушкевіч і старшыня ГА ПЦ "Вясна" Алесь Бяляцкі.*

*У Празе прадстаўнікі беларускай апазіцыі сустракаліся таксама з дэпутатамі парламенту Чэхіі і кіраўніцтвам Міністэрства замежных справаў. Размова ішла аб праблемах захаваньня правоў чалавека ў Беларусі.*

*На здымку: сяброўскі поціск рукі — Вацлаў ГАВЕЛ і Алесь БЯЛЯЦКІ.*

***У сьнежні*** прадстаўнікі беларускіх пратэстанцкіх абшчынаў выказалі публічны пратэст супраць трансляцыі па Нацыянальным тэлебачаньні 40-хвіліннага фільму "Экспансія". Фільм, у якім выказваецца і прапагандуецца негатыўнае стаўленьне да пратэстанцтва, дэманстраваўся па БТ двойчы: 26 кастрычніка і 2 лістапада. Да пратэсту далучыліся кіраўнікі пратэстанцкіх цэркваў Украіны і Расіі.

***21 сьнежня*** калектыў незалежнай тэлекампаніі "8 канал" атрымаў заяву прадстаўнікоў "Мінскіх тэлевізійных інфармацыйных сетак" аб закрыцьці каналу з 29 сьнежня. Па зьвестках супрацоўнікаў "8-га каналу" Міністэрства сувязі ня мае намеру працягваць з тэлекампаніяй дамову арэнды на наступны тэрмін. Хутчэй за ўсё з 1 студзеня 2001 году на частотах "8-га каналу" будзе працаваць тэлеканал СТВ, заснавальнікам якога зьяўляецца мінскі гарвыканкам. "8-ы канал" ніколі не вылучаўся незалежнай пазіцыяй, і тым ня менш і ён нечым не дагадзіў уладам.




***20 сьнежня*** *ў Музеі М.Багдановіча адбылася прэзентацыя бюлетэня "Трагедыя на Нямізе. Хто вінаваты?" Незалежнае расьсьледваньне падрыхтаванае да выданьня грамадзкім аб'яднаньнем "Прававая дапамога насельніцтву" сумесна з грамадзкім аб'яднаньнем "Цэнтр сацыяльнай абароны "Няміга-99". У бюлетэні сабраныя публікацыі незалежнага друку, матэрыялы крымінальнае справы, узбуджанай па факце гібелі 53 маладых людзей у падземным пераходзе мінскага метро. На прэзентацыі бюлетэня выступілі аўтары-складальнікі выданьня Алег Волчак і Раіса Міхайлоўская, якія падкрэсьлілі, што і праз паўтары гады з дня трагедыі вінаватыя ў тым, што адбылося, не названыя....*

# Перш за ўсё – Канстытуцыя...

*(Пачатак на стар.5)*

“Сходы, мітынгі, вулічныя шэсьці, дэманстрацыі і пікетаваньне, а таксама падрыхтоўка да іх павінны быць спыненыя па патрабаваньні кіраўніка (яго намесьніка) выканаўчага і распарадчага органа, органа ўнутраных справаў, арганізатара ўказанага мерапрыемства, калі неададзеная заява ці прынятае рашэньне аб забароне, парушаны парадак іх правядзеньня, прадугледжаны артыкулам 12 дадзенага Закону, а таксама пры ўзьнікненьні небясьпекі для жыцьця і здароўя грамадзянаў ці парушэньня грамадзкага парадку”. Гэта частка 1 артыкулу. Як відаць, падставай да спыненьня мерапрыемства зьяўляецца палажэньне арт. 12 Закону, у якім, як ужо згадвалася, няма інфармацыі пра забарону на ўдзел у несанкцыянаваным правядзеньні мерапрыемства, дакладней, пра санкцыянаванае мерапрыемства, але з часткова зьмененым маршрутам ці месцам правядзеньня. У артыкуле 15 Закону прадугледжваецца адказнасьць за парушэньне Закону і адсутнічае адказнасьць за зьмену арганізатарамі маршруту і месца правядзеньня мерапрыемства. Дадзеная норма артыкула зьяўляецца бланкетнай і адсылае па прымяненьне санкцыяў да арт. 167-1 КаАП РБ.

Як відаць з аналізу арт. 167-1 КаАП РБ і Закону “Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсьцях, дэманстрацыях і пікетаваньні”, шараговыя ўдзельнікі мерапрыемстваў згодна: па-першае, з арт. арт. 12 і 13 Закону; па-другое, з арт. 167-1 КаАП РБ, не павінны прыцягвацца да адказнасьці за ўдзел у несанкцыянаваных мерапрыемствах пры зьмене маршруту і месца правядзеньня мерапрыемства, калі імі не парушаныя патрабаваньні арт. 12 Закону.

Безумоўна, што пры пастанове любога судовага рашэньня суды абавязаныя кіравацца заканадаўчымі актамі ў іх сукупнасьці, да гэтага абавязвае аб'ектыўнасьць, з якой павінны разглядацца ўсе справы ў судах. На жаль, даводзіцца канстатаваць тую акалічнасьць, што пры пастанове судовых рашэньняў слаба аналізуецца заканадаўства пры ягоным прымяненьні.

Далей, паглядзім на дыспазіцыю часткі 1 арт. 167-1 КаАП РБ з пазіцыі празрыстасьці заканадаўства, ш. зн. яснасьці і зразумеласьці нормы для ўспрыманьня, для прымяненьня яе праваапрымяняльнымі органамі і паспрабуем адказаць на пытаньне, ці ўсё зразумела ў гэтай норме, каго можна прыцягваць да адказнасьці па ёй.

У гэтай сувязі хачу зьвярнуць увагу на Закон РБ ад 10 студзеня 2000 году “Аб нарматыўных прававых актах Рэспублікі Беларусь”.

У артыкуле 23 Закону вызначаныя агульныя патрабаваньні, якія прад'яўляюцца да нарматыўнага прававога акту. У частцы 3 сказана, што тэрміны і паняцьці, якія выкарыстоўваюцца ў тэксьце нарматыўнага прававога акту, павінны быць зразумелыя і адназначныя.

Частка 4 указвае, што пры выкладаньні прававых нормаў прававога акту неабходна пазьбягаць як празьмерных абагульненьняў, так і празьмерных дэталізаваных фармулёвак.

І, нарэшце, частка 6 – выкладаньне нормы нарматыўнага акту павінна быць лаканічным, пераважна сьцьвярджальным і ў цяперашнім часе.

Як бачым, калі метадам накладаньня параўнаць прыведзеныя палажэньні арт. 23 Закону з дыспазіцыяй часткі 1 артыкула 167-1 КаАП РБ, то стане відавочна, што ні лаканічнасьці, ні адназначнасьці, ні зразумеласьці па прымяненьні артыкула на практыцы няма, г. зн. нельга проста і сьцьвярджальна сказаць, а хто падлягае адказнасьці па частцы 1 арт. 167-1 КаАП РБ. Калі падыходзіць з пазіцыі праваапрымяняльнасьці органаў, то хутчэй за ўсё па частцы 1 павінны прыцягвацца да адказнасьці арганізатары мерапрыемстваў, але для іх прадугледжаная частка 2 артыкула. Заканамернае пытаньне: а хто ж адкажа, каго можна прыцягваць па гэтай частцы. Мог бы на гэтае пытаньне адказаць Канстытуцыйны суд, але ён не надзелены правам тлумачэньня законаў – гэта прэрагатыва парламенту.

Якую выснову можна зрабіць з усяго гэтага? Для суда адзіны: спыняць вытворчасьць па справах адносна шараговых удзельнікаў мерапрыемстваў пры ўмове, калі яны былі толькі ўдзельнікамі і ня больш.

Ёсьць яшчэ адно важнае пытаньне пры разглядзе судамі падобных справаў. Суды як бы па прызначэньні абавязаныя пры разглядзе любой справы высьвятляць, ці парушаны кімсьці закон, і калі так, то які, і адпаведна прымяніць уладу. У гэтай сувязі суды абавязаныя былі б зьвярнуць увагу на лакальныя акты мясцовых органаў улады, якія зьяўляюцца, на мой погляд, адной з прычынаў зьмены маршрутаў руху альбо месцаў правядзеньня мерапрыемстваў, і як вынік – шматлікіх судовых разьбіральніцтваў з удзельнікамі і арганізатарамі праводзімых мерапрыемстваў. Тут маецца на ўвазе, што на пададзеныя заяўкі арганізатараў правядзеньня вулічных шэсьцяў, мітыгнаў, пікетаваньня мясцовая ўлада, скажам, Мінгарвыканкам, адказвае адным накірункам – парк Дружбы Народаў – на падставе рашэньня ад 17 сьнежня 1999 году №1330 Мінгарвыканкаму, якое прынятае згодна з Дэкрэтам Прэзідэнта №36 ад 9 верасьня 1999 г.

Дык вось, здаецца, што суды, пакідаючы гэтую праблему без належнага яе вырашэньня, груба парушаюць арт. 8 Канстытуцыі РБ, дзе прызнаецца прыярытэт агульнапрызнаных прынцыпаў міжнароднага права і забясьпечваецца адпаведнасьць ім заканадаўства.

Рэспубліка Беларусь 12 лістапада 1973 году ратыфікавала Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах, і з гэтай даты ён тэарэтычна дзейнічае ў рэспубліцы. 30 верасьня 1992 году Рэспубліка Беларусь зрабіла заяву аб прызнаньні кампетэнцыі Камітэту па правах чалавека, згодна з арт. 41 Пакту, атрымліваць і разглядаць паведамленьні пра тое, што якая-небудзь дзяржаваудзельнік сьцьвярджае, што іншая дзяржава-удзельнік не выконвае сваіх абавязацельстваў па Пакце. Пры ратыфікацыі Пакту і падпісаньні наступных да яго Пратаколаў Рэспубліка Беларусь артыкул 21 Пакту прыняла цалкам без агаворак, а гэта значыць, што павінна цалкам яго выконваць. Прыняцьце закону ў разьвіцьцё нормы гэтага артыкулу – гэта крок. Але наступныя карэкціроўкі закону іншымі нарматыўнымі актамі, якія абмяжоўваюць правы грамадзянаў на мірныя сходы – гэта зьяўляецца поўным ігнараваньнем прынятых на сябе міжнародных абавязацельстваў. Бо практыка прымяненьня дзяржавамі Пакту і аналагічнай нормы ў “Еўрапейскай канвенцыі аб абароне правоў чалавека” сьведчаць пра тое, што нацыянальнымі заканадаўчымі актамі дзяржавы-удзельнікі ня маюць права па сваім меркаваньні без сур'ёзных падставаў абмяжоўваць свабоду мірных сходаў, дэманстрацыяў і г.д. Па сэнсу арт. 21 Пакту Мінгарвыканкам мог вызначыць месца правядзеньня мітынгаў, пікетаў і г.д. І толькі аднойчы, толькі ў выпадку існаваньня сур'ёзнай небясьпекі таго, што публічная бясьпека і парадак маглі быць пастаўленыя пад пагрозу ў выпадку, калі б была праведзеная канкрэтная контрдэманстрацыя гвалтоўнага характару ў месцы, дзе першапачаткова арганізатары прасілі дазволу на правядзеньне, і калі б улады валодалі дакладнай інфармацыяй пра тое, што правядзеньне ў запрошваемым месцы акцыі прывядзе да стварэньня пагрозы дзяржаўнай бясьпецы, да масавых беспарадкаў і г.д. Складаецца меркаваньне, што, магчыма, члены Мінгарвыканкаму, прымаючы сваё рашэньне №1330 ня ведалі пра існаваньне прыведзенага Пакту і пра тое, што яны павінны былі гэтае рашэньне сувымяраць яшчэ і з Канстытуцыяй, але гэтага не зрабілі.

Такім чынам, мне здаецца, што суды пры вынясеньні судовых рашэньняў таксама павінны мець сваё меркаваньне, якое грунтуецца на законе, і суадносіць яго з абавязацельствамі нашай дзяржавы перад міжнароднай супольнасьцю. А ў такім разе, пры пастанове суд абавязаны ставіць пытаньне аб адпаведнасьці закону таго ці іншага нарматыўнага прававога акту органа ўлады, калі ён, на думку суда, не адпавядае Канстытуцыі і іншым заканадаўчым актам. Калі суд прыйдзе да высновы аб неадпаведнасьці нарматыўнага акту Канстытуцыі, то, згодна з арт. 6 Закону “Аб Канстытуцыйным Судзе РБ” і арт. 112 Канстытуцыі, суд павінен прыняць рашэньне згодна з Канстытуцыяй і паставіць перад Вярхоўным Судом пытаньне аб унясеньні ім прапановы ў Канстытуцыйны Суд аб прызнаньні дадзенага нарматыўнага акту неканстытуцыйным.

У адносінах да рашэньня Мінгарвыканкаму №1330. Дадзенае рашэньне мае права адмяніць гарсавет. Павінна быць і адпаведная рэакцыя суда, але яе няма па невядомых прычынах, нягледзячы на відавочную незаконнасьць такога рашэньня.

Такім чынам, сыходзячы з прыведзенага аналізу, заключаю, што суды абавязаныя кіравацца пры разглядзе адміністратыўных справаў аб парушэньні парадку арганізацыі і правядзеньня сходаў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў, дэманстрацыяў і пікетаваньня (арт. 167-1 КаАП РБ) перш за ўсё Канстытуцыяй, Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах, Законам “Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсьцях, дэманстрацыях і пікетаваньні”. Іншымі словамі, ацэнку дзеяньняў грамадзянаў, якія прыцягваюцца да адказнасьці па арт. 167-1 КаАП РБ, даваць з улікам прыведзеных актаў, а затым даць адпаведную ацэнку і Дэкрэту Прэзідэнта, і рашэньню Мінгарвыканкаму. Да гэтага абавязвае Канстытуцыя, павінна абавязваць грамадзянская пазіцыя судзьдзі.

**С. ЦУРКО,**
**адвакат.**

# Таталітарызм — як прычына росту нацыянальнай самасьвядомасьці

## *Споведзь маладога беларуса*

— Чаму я стаў апазіцыянерам? За гэта Лукашэнку трэба аддзячыць. Першы раз мяне ў пастарунак зацягнулі, калі улёткі бэнээфаўскія расклейваў. На ўлік паставілі, па нырках дубінкай прайшліся, смаркачом-апазіцыянерам назвалі. Баявое хрышчэньне, так бы мовіць. Потым Лукашэнка сімволіку зьмяніў, як быццам скраў штосьці маё асабістае. А яшчэ фільм Азаронка «Нянавісьць. Дзеці маны.» ў свой час агаломшыў — зноў як дубінкай па галаве. Якая можа быць рэакцыя на лухту і абразы? Толькі супраціў! Вось з 14 год і стаў сябрам маладзёвай фракцыі Народнага фронту. Свае правы трэба адстойваць да апошняга! Права на мову, права на гісторыю, на праўду ў рэшце рэшт. Не разумею, як можна трываць лукашэнкаўскую хлусьню ды несправядлівасьць.У кожнай школе вывучаюць правы чалавека. Няўжо звыкліся, што правы гэтыя ў Беларусі ледзь ня штохвілінна парушаюцца? А я ніколі не трываў і не зьбіраюся! З пазамінулага году — у Беларускай партыі свабоды. І вельмі задаволены, што выконваю тут далёка не апошнюю ролю. Я беларус і раблю сваю Беларусь уласнымі рукамі! Нашая партыя — як таран перад усімі прэзідэнцкімі заслонамі!

***— А дакладней, Юрась, у чым вашыя задачы?***

— Праблемы нацыянальнага для нас вышэй за палітычныя. Колькі ўжо можна казаць пра гісторыю, пра плаўны пераход да беларусізацыі?! Надакучыла бясконца чакаць! Мы — за канкрэтныя і рашучыя дзеяньні...

***— З каменем супраць міліцэйскіх дубінак?***

— Ды справа ня толькі ў гэтым. Тым больш, што на мянтоў апошнім часам і наракаць не даводзіцца. І яны ж беларусы, і яны пачалі разумець, што рэжым Лукашэнкі прагніў ушчэнт. Так што на апошніх апазіцыйных акцыях свае абавязкі міліцыянты-шарагоўцы выконваюць ужо, як здаецца, упаўсілы. І прыкладаў таму шмат. Вось сёлета І2 лістапада, калі патрабавалі пераменаў, двух нашых амапаўцы ў свой аўтобус зацягнулі. Пратрымалі некалькі хвілінаў дый выпусьцілі праз задняя дзьверы цішком. Маўляў, давайце, хлопцы, хутчэй ногі рабіце пакуль афіцэры ня бачаць. Сорамна ўжо міліцыянтам сваіх абражаць ды зьбіваць... А наконт задачаў нашых так скажу. БПС — партыя радыкальная. А як інакш?! Гэта на словах Беларусь незалежная. Фактычна акупаваныя мы з усіх бакоў чужынцамі бязроднымі. Дый ня толькі з бакоў, а і знутры. З усёй гэтай пошасьцю і змагаемся. Любому парушэньню нашых чалавечых правоў адразу супрацьпастаўляем канкрэтныя дзеяньні. Так, іншым разам сілавыя. Напрыклад, мы — адзіная партыя, якая вынікова змагаецца з беларускімі баркашоўцамі.Успомніце, што было ў Мінску яшчэ нядаўна. Улёткі РНЕ на кожным слупе, ледзь не адкрытыя фашыстоўскія шэсьці на вуліцах ды пляцах. Дык хто ўрэшце ў доме гаспадар?! Асабліва злавала, што на кожнага нашага затрыманага міліцыянтам — абавязкова пратакол, а на баркашоўца — ніколі (знаёмыя мянты-шарагоўцы прызналіся). Вось і атрымліваецца, што ўлады гэтым фашыстоўцам ледзьве ня ногі цалуюць. Збавіцелі нацыі! Вось мы імі і заняліся ўшчыльную... Зараз не яны сваю волю дыктуюць, а мы. Дый на вуліцах мінскіх стала спакайней...

***— А моладзь вас падтрымлівае?***

— Падтрымае, калі час прыйдзе. Я ж студэнт. Бачу, якія ў Мінску настроі сярод юнакоў і дзяўчат. Адсоткаў 20-25 — за апазіцыю ў адкрытую і словам, і справай; яшчэ дзесьці 30 адсоткаў — сёньняшняй дзяржаўнай палітыкай хоць і моўчкі, але не задаволеныя. А другая палова — аморфная маса. Зацюканая і запалоханая. Бэпэсэзмаўцы з правінцыі, якія ў Мінску толькі год-другі. Задурылі ім у свой час галовы, прымусілі няпраўдамі дзядзьку Лукашэнку баяцца. А што яго баяцца, бязроднага?! Карацей, калі будзе прэзідэнту сёньняшняму канкрэтная разумная ды цікавая альтэрнатыва, моладзь за ёй пойдзе без асаблівых ваганьняў...

***— Дык, кажаш, не баішся нічога?***

— Не баюся! Адлічаць з інстытута? Пасадзяць за краты? Ды няхай. На калені ж усё роўна не паставяць. Гэта маё права — заставацца ў Беларусі беларусам! Вось і адстойваю яго ўсімі сіламі і сродкамі. Дарэчы, сапраўдны беларус толькі гэтым спрадвеку і займаўся. Так што ўсе мы ледзь не прафесійныя змагары за сваё, кроўнае... Натуральна, задумваўся, як будучыня скласьціся можа. Скажам, арыштуюць і з інстытуту пагоняць. Эміграцыя? Не! З Беларусі ня зьеду — справаў тут неадкладных шмат. А ўзнавіцца на вучобе заўжды пасьпею, калі ўрад зменіцца. За краты кінуць? Маральна і да гэтага гатовы. Дый фізічна таксама... Выпадак адзін да месца прыгадаю. Вельмі ўжо красамоўны ён. Выходзім аднойчы з пераходу з сябрамі, па-беларуску размаўляем. А ззаду кампанія — мажоры, так званая «моладзь залатая». Нам у сьпіны: калгасьнікі, па-мужыцку размаўляеце. Адзін з нашых і не вытрымаў: трох тых на калені хуценька паставіў ды прабачэньня прымусіў папрасіць. Справядліва? Справядліва! Мы ж ня госьці, мы ж на сваёй зямлі, беларускай. А тут міліцыянты. Затрымалі ўсіх. У гэтых «залатых» бацькі аказаліся высокімі начальнічкамі. Дзесьці ледзь не пад Лукашэнкам працуюць. Нашага за «хуліганцтва» на Валадарку на месяц. Сярод блатных сядзеў, пакуль пад падпіску ня выпусьцілі. Малайчына, вытрымаў, нават сярод блатных аўтарытэтам карыстаўся. Хоць і зэкі, а Беларусь-матухну паважаюць... І кожны з нашай партыі менавіта такі, правераны, сьвядомы, гатовы да ўсяго, бо перакананы, што сістэме Лукашэнкі супрацьпаставіць можна толькі сістэму.... Няхай саджаюць, зьлейшымі будзем.

***— А ў чым, Юрась, сістэма вашая?***

— Не сакрэт для кожнага, што апазіцыя ў цэлым надта кепска структураваная. Вось у межах сваёй партыі і пазбаўляемся ад гэтага недахопу. За кожным мерапрыемствам — сур'ёзная арганізацыйная падрыхтоўка. Ды плюс адзінства шэрагаў. Адзін за аднаго — гарой. Мяне ж некалькі разоў на акцыях затрымлівалі (на Маршах свабоды, на Чарнобыльскім шляху) і амапаўцы, і гэбшнікі рукі выломвалі. Дык кожны раз свае адбівалі. Усе ўмеюць гэта рабіць прафесійна. Бо раз на два тыдні абавязкова выязджаем на прыроду, на вышкалы-трэніроўкі. Арэндуем спартовыя залы. (Бачылі па тэлебачаньні, як баркашоўцы за горадам трэніруюцца? Улады пра гэта ледзь не з замілаваньнем распавядаюць, а нас — адразу ў экстрэмісты запісваюць. Што зробіш — улады такія...). Ледзь не на першым месцы ў нас і прапаганда з агітацыяй. Гэта і ўлёткі, і гутаркі, і сумесныя культурніцкія мерапрыемствы, і паказ відэафільмаў. Карацей, кожны наш крок па магчымасьці прадуманы і падрыхтаваны. Набіраем сілы...

...Я беларускі патрыёт, або, як у нас кажуць — нацыяналіст, бо нацыяналізм — ідэалогія дабрыні. Скарына і Каліноўскі — нацыяналісты. А хто памятае прозьвішчы здраднікаў?..

Мы ідзем з Юрасём па вуліцы. Размаўляем па-беларуску. Два міліцыянты на аўтобусным прыпынку насьцярожана прыслухоўваюцца. Я гляджу ў твар маладога бязвусага сяржанта. Яму, як і Юрасю, недзе пад дваццаць. Ён адводзіць вочы. Насьцярожанае маўчаньне рэжыму саступае на гэты раз мове апазіцыі.

...Лукашэнка не аднойчы заяўляў з вышыні свайго ўладарнага становішча,што ні ў якім разе не дапусціць на Беларусі грамадзянскай вайны... Грамадзянская вайна ўжо даўно разьвязаная. Ім самім. І ня толькі ў розумах. На вуліцах і пляцах.У час маршаў пратэсту, страйкаў і дэманстрацыяў. Па-ранейшаму затрымліваюць непаўнагадовых. Па-ранейшаму галоўным аргументам у палітычных спрэчках — ня толькі хлусьня, але і дубінка міліцыянта... Але на сілу заўжды знаходзіцца сіла.

Сімвал БПС — магутны леў які трымае ў моцных лапах старажытны беларускі крыж. І дэвіз: «Мы хочам перамагчы, мы можам перамагчы, мы пераможам, і дапамагай нам Бог!»

**Запісаў**
**Алесь ГАРКУН.**

Права на волю. Бюлетэнь Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна".
Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах.
Наклад 299 асобнікаў. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.
Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.
Адрас рэдакцыі: 220013 Менск, а/с 49.
E-mail:viasna@spring96.org
www.spring96.org
У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву ГА ПЦ "Вясна"